ЖЕНСКИЙ ВЗГЛЯД

## Лидер партии должен успевать все!

Прочла в "Народной Воле" заметку о председателе Белорусской социал-демократической партии ("Грамада") **Ирине Вештард**, которая говорит, что так занята партийной деятельностью, что ей даже пыль в доме протереть некогда!



По-моему, если человек так неорганизован, что у него нет времени на уборку, как он может возглавлять целую партию? И нисколько, по-моему, оправданием не может служить отсутствие автомобиля, коттеджа и других благ. А призыв к однопартийцам *"скинуться на планшет"* вообще выглядит унизительно. Ведь если ты сам не можешь себе помочь, то как ты сможешь помогать другим?!

Очень сомнительным для меня выглядит утверждение о том, что езда в метро позволяет лучше узнать жизнь народа. Как правило, люди в метро больше молчат, у многих нет обычая делиться своими мыслями с незнакомыми людьми.

Кстати, недавно прочла в "Народной Воле" интересную публикацию о Петре Машерове. И отметила, что этот очень занятый государственными делами человек, глава компартии страны, как-то умел находить время на все и никогда не жаловался на занятость. Вот с кого, считаю, надо брать пример, в том числе Ирине Вештард, которая пошла в политику.

**Розалия РУБИНЧИК, пенсионерка.**

ПАЗІЦЫЯ

# Ці трэба спускаць на іх сабак?

Адным з самых устойлівых і пашыраных міфаў, якія стварыла лукашэнкаўская прапаганда за гады свайго існавання, да нядаўняга часу быў тэзіс пра тое, што ў Беларусі ледзь ці не самыя нізкія ў свеце пакасчыкі беспрацоўя. Гэты факт падаваўся як значнае дасягненне рэжыму не толькі ў сацыяльнай сферы, але і ў галіне... правоў чалавека. Бо Лукашэнка сам неаднаразова казаў пра тое, што галоўнае права — гэта права на працу. А ў нас, калі верыць чыноўнікам з урада і Адміністрацыі прэзідэнта, з гэтым нібыта ўсё настолькі добра, што хоць у Кнігу рэкордаў Гінеса занось.

Зразумела, што ні Лукашэнка, ні міністр сацыяльнай абароны, ні тым больш афіцыйныя прафсаюзы і праўладныя СМІ свядома ніколі не рабілі акцэнт на тым, што ў нас фантастычна нізкія лічбы **афіцыйна зарэгістраваных** беспрацоўных. І гэта цалкам зразумела. Навошта чалавеку, як кажуць, у здаровым розуме і пры цвёрдай памяці марнаваць час і нервы на тое, каб у выніку атрымаць дапамогу па беспрацоўі ў памеры 20—30 долараў (вядома ж, у эквіваленце)? І то пры ўмове выканання так званых "грамадскіх работ", напрыклад, па выкідванні гною ў калгасе ці па ўборцы вуліц.

Пры гэтым, па падліках аўтарытэтных незалежных экспертаў, каля 700 тысяч беларускіх грамадзян працуюць за межамі Беларусі, пераважна нелегальна, у суседняй Расіі. Калі ж зыходзіць з розніцы паміж колькасцю насельніцтва Беларусі ў працаздольным узросце і колькасцю насельніцтва, занятага ў эканоміцы, то атрымліваецца, што на сённяшні дзень у Беларусі нідзе афіцыйна не працуе і не вучыцца больш за мільён чалавек! Зразумела: шматтысячная маса "гастарбайтараў" ніколі ў зводкі афіцыйнай статыстыкі не трапляла. Больш за тое, на ўсе пытанні, якія тым ці іншым чынам закраналі гэтую вострую праблему, улады адказвалі здзеклівымі каментарыямі з вуснаў дробных чыноўнікаў, асноўны змест якіх зводзіўся да таго, што, згодна з іх дадзенымі, у Расіі (зноў жа такі па афіцыйна заключаных дамовах) працуе літаральна 2—3 тысячы чалавек. Звесткі ж пра амаль мільённае "войска" беларускіх рабацяг на расійскіх будоўлях прадстаўнікі лукашэнкаўскай вертыкалі інакай, як "паклёпам" і "інсінуацыямі", не называлі.

І вось нядаўна Міхаіл Мясніковіч, другі чалавек ва ўладнай іерархіі, адным махам звёў на нішто шматгадовую працу сваіх жа падначаленых са Статыстычнага камітэта. Аксакал беларускай палітыкі заявіў, што *"амаль 445 тысяч беларусаў працаздольнага ўзросту па дакументах нідзе не працуюць, не ўносяць ніякага ўкладу ў развіццё грамадскай эканомікі"*. Адначасова беларускі прэм'ер агучыў сваё бачанне вырашэння гэтай праблемы, прапанаваўшы *"ўвядзенне падатку з непрацуючых"*.

Трэба сказаць, што першым пра барацьбу з так званым "сацыяльным утрыманствам" пачаў казаць сам Лукашэнка, прапанаваўшы ўвесці 100-працэнтную аплату медыцынскага абслугоўвання для тых беларускіх грамадзян, якія працуюць за межамі Беларусі, атрымліваюць добрыя заробкі, але плаціць падаткі не жадаюць. Абмеркаванне закінутай у свядомасць электарату тэмы працягнулі некаторыя дэпутаты "палаткі", і вось, нарэшце, уступіла ў дзеянне і "цяжкая артылерыя" ў асобе Мясніковіча, а потым намесніка міністраў фінансаў Ермаловіча, які ўдакладніў думку свайго боса, сказаўшы, што будучы падатак можа скласці 8 мільёнаў за год. А затым у рукі незалежных журналістаў трапіў і адпаведны праект указа прэзідэнта з дэталёвым раскладам, хто і як будзе плаціць. Такім чынам, сама сабою напрошваецца выснова, што ўлады спакваля, не спяшаючыся, але паслядоўна і мэтанакіравана рыхтуюць насельніцтва да прыняцця непапулярных рашэнняў у гэтым пытанні.

Хачу вызначыцца з пазіцыяй і сказаць, што менавіта я, як грамадзянін Беларусі, рашуча супраць любых захадаў, якія тычацца дыскрымінацыі правоў людзей. І ў плане абкладання іх нейкімі незразумелымі падаткамі, і ў плане ўсталявання ў адносінах да іх нейкіх абавязковых выплат за карыстанне сацыяльнымі паслугамі, у тым ліку і медыцынскімі.

**Па-першае,** у тым, што людзі працуюць нелегальна і не рэгіструюцца ў якасці падаткаплацельшчыкаў, галоўная віна ляжыць якраз на дзяржаве, на тым рэжыме, які кіруе Беларуссю з 1994 года. Чаму людзі з'язджаюць з раённых цэнтраў і вёсак у Расію, працуючы ад відна да відна, нярэдка рызыкуючы здароўем, а то і жыццём? Адказ відавочны. Бо існуючыя на сёння памеры заробкаў на абсалютнай большасці беларускіх прадпрыемстваў і ўстаноў — гэта здзек з чалавека. Пражыць на гэтыя сумы і аднаму цяжка, не кажучы ўжо пра тое, каб утрымліваць сям'ю з некалькімі дзецьмі. Нават на такім сталічным гіганце, як МТЗ, заробкі пакідаюць жадаць нашмат лепшага. А ў правінцыі яны яшчэ на парадак меншыя. Таму пра якую адказнасць грамадзян перад дзяржавай (у выглядзе падаткаў) можна весці гаворку, калі дзяржава не можа забяспечыць кваліфікаванаму працаўніку нават мінімальна неабходны ўзровень спажывання?

**Па-другое,** тыя нашы суайчыннікі, якія нелегальна працуюць у самой Беларусі, аказваючы самыя розныя віды паслуг, напрыклад, па рамонце кватэр, хаваюцца ад падаткаў у большасці выпадкаў таму, што ў нашай дзяржаве зарэгістравацца і ўтрымліваць уласны невялікі бізнес — гэта своеасаблівы подзвіг. Асабліва ў рэгіёнах. Зразумела, што з любога правіла існуюць выключэнні. І, напрыклад, калі ты сваяк мясцовага вертыкальшчыка ці нейкага начальніка з сілавых структур, то ты будзеш мець рэжым найбольшага спрыяння. Але ж сітуацыю, пры якой паспяховы і прыбытковы бізнес можна мець толькі пад кантролем улад, інакай як сістэмнай карупцыяй не назавеш. Я ўжо не кажу пра практыку рэгулярных збораў з прадпрымальнікаў на бясконцыя "дажынкі", "базары", "уборачныя" і гэтак далей. Таму дзяржава павінна стварыць умовы для таго, каб людзі выйшлі з "ценю" і плацілі падаткі. Бо пры існуючай сітуацыі, калі сілавікі і судовая сістэма фактычна не выконваюць свае функцыі па абароне правоў і законных інтарэсаў грамадзян, а абслугоўваюць інтарэсы рэжыму, у тым ліку і ў эканамічнай сферы, свядома парушаючы пры гэтым законы і Канстытуцыю, казаць пра тое, што людзі павінны выконваць тыя ж законы і плаціць падаткі, — гэта ў рэшце рэшт проста амаральна і несумленна.

**Па-трэцяе,** ставіць у віну людзям тое, што яны карыстаюцца пэўным наборам сацыяльных гарантый, якія забяспечваюцца за кошт дзяржбюджэту, не плацячы пры гэтым падаткаў, не толькі некарэктна, але і нявыгадна нават для самой дзяржавы.

Цалкам незразумелым з'яўляецца папрок у тым, што, маўляў, дзеці беспрацоўных вучацца ў дзяржаўных школах, якія фінансуюцца за кошт тых, хто працуе і нават з самага з самага мізэрнага заробку плаціць падаткі ў дзяржбюджэт. Прыплылі, што называецца. Такія недарэчныя аргументы нават і абмяркоўваць не хочацца. Базавая школьная адукацыя з'яўляецца ў Беларусі *абавязковай*. І нават калі па нейкіх прычынах (давядзём сітуацыю да абсурду — дапусцім, каб сэканоміць дзяржаўныя сродкі) беспрацоўныя бацькі не пажадаюць аддаваць сваё дзіця ў школу, дзяржава як інструмент узаконенага гвалту *прымусіць* іх гэта зрабіць. Школьная адукацыя — гэта не дзяржаўная "дабрачыннасць", а зусім наадварот. Дзяржаве патрэбны людзі з пэўным наборам ведаў і навыкаў для таго, каб сам дзяржаўны механізм мог існаваць. Таму гэта бацькі робяць паслугу дзяржаве, асабліва ўлічваючы тое, у якім жахлівым стане знаходзіцца беларуская сістэма школьнай адукацыі і выхавання. І гісторыя Гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, які працуе нават без мінімальнай дзяржаўнай падтрымкі, фактычна ў падпольных умовах, даючы пры гэтым надзвычай якасную сярэднюю адукацыю, яшчэ раз гэта пацвярджае.

**Па-чацвёртае,** усе тыя, хто нелегальна працуе і не плаціць падаткі, усё роўна купляюць прадукты і тавары ў беларускіх крамах. Яны не толькі забяспечваюць працай і заробкам тых, хто працуе на беларускіх прадпрыемствах, але і аплачваюць падатак на дададзеную вартасць, які прысутнічае абсалютна ва ўсіх таварах і паслугах — ад хлеба да пасцельнай бялізны ў цягніку. Гэтых людзей не трэба цкаваць і пераследаваць, не трэба спускаць на іх усіх сабак. Яны абсалютна самастойна забяспечваюць сябе і свае сем'і, нічога не патрабуючы ў дзяржавы. Гэта найбольш актыўная і крэатыўная частка нашага грамадства, якая абавязкова будзе працаваць "убелую", калі для гэтага будуць адпаведныя — палітычныя і эканамічныя — умовы.

Зразумела, тое, што беларускі бюджэт мае вялікія праблемы з напаўненнем, — гэта факт. Калі б у дзяржавы хапала грошай на фінансаванне сацыяльнай сферы, то не было б і заявы Мясніковіча. Але, як мне падаецца, трэба не выдумляць новыя паборы і падаткі для тых, хто хоча і можа зарабляць самастойна, а разабрацца з самім механізмам бюджэтных выдаткаў. Трэба кардынальна змяніць прыярытэты бюджэтнай палітыкі, бо зараз на так званую "агульнадзяржаўную дзейнасць" (утрыманне бюракратычнага апарату і органаў улады), а таксама на сілавыя і карныя структуры (МУС, КДБ, Міністэрства абароны, Служба аховы прэзідэнта і г.д.) выдаткоўваецца значная частка бюджэту. Пры гэтым даўно вядома, наколькі неэфектыўна і непрафесійна працуе тая ж міліцыя. І гэта пры тым, што колькасць супрацоўнікаў там перавысіла ўсе магчымыя і немагчымыя межы. А КДБ ужо шмат гадоў працуе выключна як палітычная паліцыя, што з'яўляецца адкрытым парушэннем Канстытуцыі.

Пра дзейнасць лукашэнкаўскай вертыкалі, якая з'ядае значную частку дзяржаўных грошай, можна меркаваць хаця б па тым, які вал скаргаў на мясцовыя ўлады ідзе з рэгіёнаў у Адміністрацыю прэзідэнта. І гэта пры бясконцых размовах пра барацьбу з карупцыяй і дэбюракратызацыю.

Неабходна перагледзець самі прынцыпы існавання сістэмы кіравання са значным і, што самае важнае, рэальным (без перасаджвання з аднаго месца ў іншае) скарачэннем чыноўніцкіх штатаў. Бо лукашэнкаўская вертыкаль — гэта не толькі заробкі і прэміі, гэта шыкоўныя аўтамабілі, сучасная камп'ютарная тэхніка, еўрарамонты ў кабінетах і г.д. Тое ж тычыцца сілавых структур і спецслужбаў. Некаторыя з іх трэба проста ліквідаваць, што дазволіць вызваліць аграмадныя сумы дзяржаўных сродкаў.

Але ж без карэнных змен у палітычнай сістэме, без дэмантажу аўтарытарнага рэжыму Лукашэнкі зрабіць усё гэта проста немагчыма. Таму галоўнае пытанне ў тым, ці знойдзецца палітычная сіла, якая зможа вырашыць гэтую складаную задачу.

**Дзяніс РАБЯНОК, актывіст Аб'яднанай грамадзянскай партыі.**

*г.Калінкавічы.*



ИЗ ПИСЬМА

## Без надежды на лучшее

Цены у нас растут бешеными темпами. В повседневной жизни мелкие удары по карману уже просто вызывают злость. Казалось бы, еще и месяца не прошло, как повысили цены на хлеб, проезд в общественном транспорте. Прихожу на почту отправить письмо по Беларуси. Конверт, который стоил полторы тысячи, уже стоит 2500. За пересылку почта взимает сверхприбыль, но у почтовых работниц зарплата около 1,5 миллиона, молодые сотрудницы на почте постоянно меняются — уходят из-за такой нищенской зарплаты.

Большинство людей не могут по таким бешеным ценам купить ни одежду, ни обувь, ни поменять добитую мебель, купленную во времена СССР. Зарплаты или пенсии хватает лишь на то, чтобы элементарно просто выжить. Естественно, что многие убегают в Россию из-за нищенских зарплат...

Мне кажется, со временем народ в Беларуси будет жить только хуже и хуже... Грустный прогноз, но, к сожалению, он навеян нашей действительностью. Вот такая жизнь без надежды на светлое будущее...

**Тимофей Иванович МАКАРЕНКО.**

*Витебск.*

ШЧЫРА



*Анатоль ЗЭКАЎ*

## «На Радзіме прапашчай наша мова не будзе»

### Скарынава слова

*Скарынавай душою*
*узлашчанае слова*
*крыляла над мяжою,*
*бруілася вяснова.*

*З ім сеялі і жалі,*
*грыбы збіралі ў лесе.*
*Яно — у песнях жалю,*
*яно — ў жартоўных песнях.*

*У ім — і плач хаўтурны,*
*у ім — і шэпт таемны,*
*у ім — і гнеў, і буры*
*пажарышчаў ваенных.*

*Ўзлятала над планетай*
*і клікала дадому...*
*Не знішчыць слова гэта,*
*не вытруціць нікому.*

*З Радзімаю адзінай*
*жыве яно асновай.*
*Пакуль жыве Радзіма —*
*датуль жыве і слова.*

### У музеі Якуба Коласа

*Чытаюць Коласа студэнты*
*у доме тым, дзе Колас жыў.*
*Каб гаспадар ды тое ведаў,*
*то й сам прыйшоў бы.*

*І ў цішы*
*стаіўся б, седзячы, і слухаў,*
*з мілосцю гледзячы на тых,*
*хто адагнаў сягоння скруху*
*з яго гадоў немаладых.*

*Лавіў бы кожнае іх слова*
*і чуў, як сэрца адтае,*
*што не памерла наша мова,*
*жыве, радзімая, жыве!*

*А значыць — ўсё-ткі недарэмна*
*пісаў свой ліст ён у ЦК.*
*Бы ў глебу кінутае зерне,*
*нібы раўчук той са стаўка,*

*яна на волю мкне з імпэтам,*
*каб шлях свой далей церабіць...*
*Калі такія ёсць студэнты,*
*то мова наша будзе жыць!*

***

*Няхай не ўсе,*
*ды пакрысе*
*цураемся мы роднай мовы,*
*і ўжо, як той бабулін серп,*
*ў мінулым застаюцца словы,*
*якія роднымі былі*
*для продкаў,*
*што для нас, нашчадкаў,*
*іх як за ручку прывялі,*
*каб мы глядзелі ў іх,*
*бы ў святкі.*
*Ды што нам святкі,*
*калі мы*
*аглухлі й анямелі, Божа,*
*а ўшчэнт аглухлым і нямым*
*пра мову дбаць*
*наўрад ці можна...*

### Беларуская мова

*Нам чыноўная зграя*
*тлуміць звеку галовы,*
*што нібы памірае*
*наша родная мова.*

*Хто дарэмна гародзіць,*
*што ў нябыт нібы сёння*
*яна ціха сыходзіць*
*і нібы ўжо на сконе.*

*Мо й хацеў хто —*
*свет цесны! —*
*яе знішчыць бы часам,*
*ды на ёй — нашы песні,*
*ды на ёй — нашы казкі.*

*Яе слова і лашчыць,*
*яе слова і судзіць.*
*На радзіме прапашчай*
*наша мова не будзе!*

***

*Мову родную адпрэчылі —*
*хай вас Бог, відаць,*
*за тое судзіць,*
*толькі мова ўсё ж знявечанай,*
*як бы не хацелі вы,*
*не будзе.*

*Хоць трынож яе ты,*
*хоць палі,*
*хоць, як з торбы,*
*з нас яе вытрушвай,*
*ды пакуль жывём мы на зямлі,*
*і яна жыве у нашых душах.*

### На радзіме

*На радзіме не вякую,*
*а, прыехаўшы, заўжды*
*слова роднае смакую,*
*бы ў малечыя гады,*
*дзе, было, упершыню я*
*спрабаваў яго на смак...*

*Слова без мяне вякуе,*
*не прагорклае, аднак.*

***

*На гэтым свеце ўсё часова,*
*і мы часовыя на ім.*
*І толькі матчынае слова*
*не сыдзе у зямныя схровы*
*і не развеецца, як дым.*

*Яго не знішчаць цемрашалы,*
*як і не ўтопчуць у дрыгву.*
*Любыя вынесе навалы*
*і пройдзе праз усе завалы,*
*каб абвясціць сябе:*
*— Жыву!*

### Аптымістычнае

*Няма народу зводу.*
*якіх не зведаў бы нягод,*
*прайшоўшы шлях свой годна,*
*ён застанецца, наш народ.*

*І хто б яго папружкай*
*не гнаў адвеку ў свой хаўрус,*
*ад мовы беларускай*
*не адрачэцца беларус.*

### Пра аўтара

Анатоль Мікалаевіч Зэкаў (нарадзіўся 20 студзеня 1955 года; вёска Патапаўка, Буда-Кашалёўскі раён, Гомельская вобласць) — беларускі паэт, празаік.

У 1977 годзе скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў у рэдакцыі гомельскай раённай газеты "Маяк", потым — у Гомельскім райкаме камсамола: загадчыкам арганізацыйнага аддзела, другім сакратаром.

З 1980-га да 1982 года — слухач Вышэйшай камсамольскай школы пры ЦК ВЛКСМ (г.Масква). У Мінску працаваў інструктарам аддзела прапаганды і агітацыі ЦК ЛКСМ Беларусі. У 1991 годзе завочна скончыў Інстытут паліталогіі і сацыяльнага кіравання Кампартыі Беларусі. Палітолаг.

Член Саюза пісьменнікаў Беларусі.

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Колькі каштуе «Лістапад»?

***Падкажыце, ці вядома, у якую суму падаткаплацельшчыкам абышоўся кінафестываль "Лістапад" разам з запрошанымі гасцямі?***

***Валянціна ЦІХАМІРАВА, Мінскі раён.***

Бюджэт XX Мінскага міжнароднага кінафестывалю "Лістапад" складае прыкладна 500 тысяч долараў.

Такія лічбы сёння агучыў першы намеснік міністра культуры Беларусі **Уладзімір Карачэўскі.**

На першы кінафорум было выдаткавана толькі 20 тысяч долараў.

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

КВАРТИРНЫЙ ВОПРОС

## Как жениться, если ни жилья, ни зарплаты?

Всю жизнь добросовестно с мужем трудились, и все, что заработали, — это двухкомнатная квартира. Полгода назад муж умер. Казалось, что в этой квартире будут жить и наши дети. Но получается так, что мой сын останется без жилья. По очень простой причине — отсутствие денег. Сын работает кочегаром. Зарплата мизерная. Приходится мне, пенсионерке, ему помогать. Для нас собрать деньги на приватизацию жилья — просто нереально. А если не приватизируем, с нас будут брать аренду по рыночным ценам, а это немалые деньги. Сын скорее всего не сможет платить аренду, и его выселят. А если и заплатит, то будет жить впроголодь, а ведь надо еще и еду покупать, одежду.

Раньше о приватизации мы не задумывались. Дому уже больше 30 лет, за эти годы ни разу не было ни капитального, ни текущего ремонта. Крыша течет, сантехника проржавела, окна гнилые. На мою квартиру государство не потратило ни копейки. Мы все делали сами. И за это жилье сегодня государство хочет получить с нищего человека много миллионов! Я называю это рэкетом.

Я вырастила сына в этой квартире. Помню, как купала его маленького на кухне, которую согревала при помощи включенной плиты. Вырастила крепкого, здорового и умного парня. В армии был десантником. А теперь просто больно на него смотреть... Ему 31 год, уже пора бы и жениться, иметь детей. А он говорит: мама, ну куда жениться, если ни жилья, ни нормальной зарплаты?

И я даже не знаю, что ему ответить и как ему помочь...

**С уважением —**

**Нина Владимировна КОРОЛЬ.**

*г.п.Красная Слобода Солигорского района.*



СЛОВА БЛАГОДАРНОСТИ

## Спасибо, доктор!

Хотела бы поделиться своей историей, которая может стать для кого-то интересной и полезной. С 2008 года страдаю хроническим фронтитом. По два раза в год постоянные обострения. Три раза лежала в лор-отделении 4-й ГКБ, и все три раза делали трепанопункции, постоянно принимала антибиотики и противовоспалительные. Но даже после трепанопункций и якобы устранения фронтита головные боли продолжались. Боль такая, что хочется лезть на стенку, в макушку головы как будто вставили острый предмет. Любая простуда вызывает страх — опять трепанопункция, опять антибиотики? За пять лет я лечилась у многих невропатологов и лор-врачей, но никто толком не мог меня вылечить, чтобы я могла забыть про эту болячку навсегда.

По счастливой случайности я попала в поликлинику №27 к лор-врачу **Вячеславу Михайловичу Богушу**. Его объяснение сути моей болезни меня поразило. Оказалось, невралгия тройничного нерва вызывает отек слизистой лобной пазухи, что приводит к развитию фронтита. Поэтому излечение моей хвори основано в первую очередь на излечении невралгии тройничного нерва. А лечение невралгии он подробно описал в своей статье на форуме в интернете. Доктор предложил мне ознакомиться с методикой и, если я согласна, начать лечение. Скажу сразу: после трех сеансов боль полностью исчезла, чего раньше никогда не было без применения антибиотиков и трепанопункции! Еще через шесть сеансов он сказал, что невралгия меня беспокоить не будет. Я уточнила: будут ли повторяться фронтиты? Врач пояснил: все зависит от того, насколько видоизменилась слизистая пазух, и если бы я начала лечение хотя бы несколько лет назад, то гарантия выздоровления была бы почти 100-процентной.

В связи с этим хочу обратиться лично к министру здравоохранения и попросить обратить внимание на лор-врача 27-й поликлиники Вячеслава Михайловича Богуша: это прекрасный врач, и он может помочь многим больным.

И спасибо Вам, доктор!

**С уважением —**

**Светлана Вячеславовна ХОЛОПИЦА.**

*Минск.*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
9 ЛІСТАПАДА 2013 г.

ПЕРСОНА

# Финансист

## 25 вопросов банкиру о социальной справедливости, диктате государства, башне «Газпрома» и ценах на искусство

*Биографию банкира Бабарико я посоветовала бы внимательно изучать всем амбициозным юношам и девушкам, думающим "делать жизнь с кого". У Виктора Дмитриевича она проста и хрестоматийна, так как укладывается в веками апробированный афоризм: ученье — свет, а также карьера и успех. Изучая его досье перед интервью, я с удовольствием читала: университет, магистратура, Академия управления. И это в те незабвенные 1990-е, когда очень многие ждали немедленного богатства, а потому шли в "директора ларьков" продавать поштучно сигареты.*

*Но если человек хочет немедленно видеть результаты своего труда, ему надо идти в сапожники, говорил Альберт Эйнштейн. Виктор Бабарико долго учился, прежде чем прийти в финансовую систему Беларуси. И вот уже больше десяти лет его имя заслуженно известно в профессиональных и высших административных кругах страны.*

*Но в общественной жизни фамилия Бабарико зазвучала лишь год назад — и в связи с каким неординарным событием! В Национальном художественном музее "Белгазпромбанк" представил публике корпоративную коллекцию живописи, а именно картины художников Парижской школы, выходцев из Беларуси. И дело, конечно, не в том, что эта роскошная коллекция стоит немалых денег, которые не поскупились потратить банкиры. Главное, что уникальные произведения искусства благодаря усилиям "Белгазпромбанка" и председателя его правления стали доступны для просмотра всей Беларуси — после Минска коллекция демонстрировалась в областных городах. Благодаря этой редкой коллекции мы смогли понять что-то важное, ранее, возможно, упущенное о родной стране, а также о мире в целом. Думаю, для многих персона банкира Виктора Бабарико предстала с тех пор совершенно в ином свете.*

*Добавлю, что сегодня, 9 ноября, у Виктора Дмитриевича юбилей. Редакция не готовила это интервью специально ко дню его рождения. Но даты счастливо совпали, и наш коллектив искренне поздравляет уважаемого человека Виктора Бабарико, профессионала и гражданина, с 50-летием!*



Фото Юрия ИВАНОВА.

### Досье «Народной Воли»

*Виктор Дмитриевич Бабарико родился в Минске. В 1988 году получил диплом Белорусского государственного университета. Трудовую деятельность начинал в НПО порошковой металлургии. В 1995 году окончил Академию управления при Кабинете министров Беларуси, а пять лет спустя — магистратуру Белорусского государственного экономического университета.*

*В банковской системе Беларуси Виктор Бабарико работает с 1995 года. Председателем правления ОАО "Белгазпромбанк" стал в июле 2000 года.*

*Женат, двое детей: дочь Мария и сын Эдуард.*

**1. — Виктор Дмитриевич, что значит потратить деньги с умом? Это так же трудно, как и заработать?**

— Что-либо сделать с умом вообще трудно. Для этого нужны два условия: во-первых, тот самый ум, во-вторых, желание. И потом все очень вариативно. С умом — это как? У всех разное понимание о "зарабатывать и тратить".

**2. — Меценат — это человек, со всех сторон плотно окруженный деятелями культуры. Как вы чувствуете себя в этом кольце?**

— Вряд ли применимо ко мне или нашему банку понятие "меценат". Мы реализуем проекты, которые интересны нам, которые интересны зрителю. Можно ли назвать меценатом организацию, которая строит школу? Но они ж должны быть, эти школы! И если кто-то их не делает, то это беда системы. Поэтому мы пытаемся строить систему — систему правильно организованного государства. В нем должны быть проекты, связанные с культурой, связанные с наукой, с заботой о больных и обездоленных. Мы пришли к пониманию, что строить систему сложнее, но нужнее. Это намного важнее и правильнее, чем точечная помощь.

**3. — Но Международный благотворительный фонд "Шанс" ведь создали именно вы? А там идет точечная помощь людям.**

— "Шанс" — первый и самый долгий проект, им уже можно гордиться. За 5 лет работы на рубль, который даем мы, фонд генерирует от 12—14 рублей других. Вот это и есть система. Так и в проектах, связанных с культурой. Правда состоит в том, что мы не специалисты в области театра, изобразительного искусства, не специалисты в области благотворительности. Мы системщики, и у нас есть деньги. Для успешного проекта (независимо от того, в какой сфере вы реализуете проект) одинаково важны три составляющие: идеи — лидер — деньги. Заметьте, деньги всего лишь одна треть. Хотя без комбинации трех составляющих хорошего проекта не получится. Но наличие только одной составляющей точно так же не даст никакой пользы.

**4. — Вы не разочаровались в людях? Говорят, что бедные еще более жадные, чем богатые…**

— Прямой зависимости: бедный — хороший, богатый — плохой или наоборот — такой зависимости, по-моему, нет. Но я абсолютно убежден в том, что стать хорошим шансов намного больше у богатого, чем у бедного. Я часто цитирую Конфуция, который в V веке до нашей эры сказал, что в государстве, которое хорошо управляется, стыдятся бедности. А в государстве, которое плохо управляется, стыдятся богатства. Когда человек становится на материальную ступеньку выше, чем просто удовлетворение своих потребностей, у него возникает возможность сделать что-то для другого человека. Хотя оценить степень доброты нельзя, невозможно. В "Шансе" мы всегда говорим одинаковое спасибо тому, кто дал доллар, и тому, кто дал миллион. Потому что не мне судить, что стоит для того, кто дал доллар, этот доллар… А для миллионера — миллион. Главное, что он дал. Это не его обязанность. Я категорически против термина "социальная ответственность". Социальная ответственность бизнеса — вести прибыльный бизнес и платить налоги, заботясь о своих людях. Нет социальной ответственности быть добрым. Это не обязательство, это нечто другое. Но, повторю, возможность быть добрым, когда ты богат, намного выше, чем быть добрым, когда ты беден.

**5. — Когда вы как председатель правления банка принимали решение о покупке картин художников Парижской школы, были оппоненты этой идеи?**

— Любой проект вызывает дискуссию. Искусство того, кто эти проекты защищает, хорошо подготовиться, подумать, какие альтернативы могут быть предложены, и дать варианты ответов, которые удовлетворяют оппонентов. Да, дискуссия была. Однако есть неизменно четкое понимание — и это распространяется на все предприятия "Газпрома" и "Газпромбанка" — делать что-то, направленное на развитие общества в целом, участвовать в проектах социальной сферы. Это корпоративная культура самого "Газпрома" и "Газпромбанка". Соответственно, от нас как от менеджмента требуется лишь найти важные, интересные проекты, удовлетворяющие интересы той страны, в которой мы находимся.

**6. — Почему государство так строго контролирует благотворительность? Как вы считаете, имеет ли оно право на такой диктат?**

— Государство, как я всегда говорю, тот институт, который сам устанавливает и правила, и свои права. Так что право оно имеет по определению. Но насколько это разумно? Вопрос контроля в данном случае не самый важный. Важно, мотивирует государство или демотивирует благотворительность. Ну, нас за нашу благотворительность наказывают рублем. Например, в соответствии с законодательством наш проект "Арт-Беларусь" — возвращение на родину художественных ценностей — облагается налогом. Но если я купил за рубль, а здесь доплачиваю еще некоторую сумму, то какая ж это мотивация? Выходит, государство не заинтересовано в том, чтобы я возвращал утраченное наследие. Но государство говорит: если мы поймем, что это — наследие, то мы тебе вернем налог. А процедура возврата по отдельным экспонатам длится не один год. Это все равно как получить по башке, а потом услышать: "Подожди, мы скоро извинимся". Так что я до сих пор не могу понять отношение нашего государства к благотворительности: ему это надо или не надо? На трибуне говорят, что заинтересованы в частном партнерстве, по факту — наказывают. Существует явное расхождение между словами и фактами.

**7. — А вот если бы акционеры банка решили помочь независимой газете "Народная Воля", у вас возник бы конфликт с системой?**

— Я никогда не считал ни один конкретный печатный орган независимым. Независимых газет не бывает. Но есть независимая пресса! Поддержать газету "Народная Воля" — с моей точки зрения, это точечный проект. Вот если бы ко мне пришли и сказали: давайте сформируем систему, которая позволяла бы существовать независимой прессе в Беларуси, — вот это было бы интересно. Ведь что такое независимая пресса? Совокупность разнообразных зависимых газет и образует независимую прессу. В таком проекте нам было бы интересно поучаствовать. Но к нам с таким проектом не приходят.

**8. — Ваш офис переселится в башню "Газпрома", которая будет построена на углу проспекта Независимости и улицы Филимонова?**

— На сегодняшний день, решая тактическую задачу (тот уровень бизнеса, который мы развили, требует срочного расширения площадей), мы строим новое здание банка рядом со старым на улице Притыцкого. С точки зрения стратегической — большой "Газпром" возникнет в Минске, по оптимистическому сценарию, в 2018 году — часть наших подразделений переедет на улицу Филимонова. В башню.

**9. — Как вы реагируете на возмущение общественности по поводу сноса Московского автовокзала?**

— Нельзя считать, что "Газпром" (или кто-то другой) строит в том месте и так, как он хочет. Для того, чтобы что-то построить, нужно получить кучу разрешений и согласований. Их дают люди, наделенные государственными полномочиями принимать решения относительно того, красиво это или некрасиво, хорошо или плохо. Решение о том, что городу Минску, Республике Беларусь выгодно и красиво иметь на упомянутой территории башню "Газпрома", приняла белорусская сторона, а не "Газпром". Возмущение? А любое решение вызывает возмущение. Я абсолютно уверен, что когда сносили деревянные избы и строили каменные дома, тоже были возмущения. Смена старого на новое всегда вызывала волнения. И с моей точки зрения обвинять только того, кто это строит, явно неправильно. Есть система в принятии решений. Я не говорю о том, что она никогда не ошибается, — это другое дело. Вот яркий пример: строительство придорожного сервиса около Куропат. Виноват застройщик? Ну да, можно сказать, он должен был подумать... Безусловно, должен. Никто не снимает с него части (!) ответственности. Но ведь и все инстанции бодро сказали ему: "Зер гут!". Он начал строить. А теперь виноват.

**10. — Но вы не опасаетесь, что на строительстве конкретно башни еще предстоит столкнуться с демонстрациями?**

— Вопрос явно не к нам, мы-то не строим. Однако с моей точки зрения то, что там будет сделано, будет явно лучше прежнего: это будет выдающееся архитектурное сооружение, знаковое для столицы. Демонстрации? Я за то, чтобы они могли быть в принципе. Если бы вы спросили, пойду ли я их разгонять или запрещать, — честно скажу: нет, это неправильно. Возможность высказать в цивилизованных рамках свое мнение, безусловно, должна существовать. Но если вы спросите меня, пойдешь ли ты сам на демонстрацию, — точно не пойду. Я считаю, что решение принято правильное.

**11. — Вашей фамилии нет в новом списке Совета по развитию предпринимательства при президенте. Это естественная ротация или вы вышли из Совета по каким-то причинам?**

— Формирование Совета происходит, не спрашивая мнения членов Совета. Сложно оценивать, кому от этого стало лучше: мне или Совету? Пригласили — поработал, исключили — значит, теперь не нужен.

**12. — Вам знакомо чувство зависти?**

— К чужому материальному успеху — точно нет. К деловым достижениям — безусловно, да. Есть две реакции этого чувства: как желание навредить соседу и чувство соперничества: "Ух ты, а что ж это я отстаю?" Второе чувство мне знакомо.

**13. — Как вы думаете, постановление Нацбанка №524 об урезании бонусов коммерческим топ-менеджерам, которое было недавно обнародовано, продиктовано чувством зависти или, как упоминалось в комментарии к постановлению, чувством социальной справедливости?**

— Если внимательно читать постановление, то а) ничего нового там нет, эти принципы были утверждены и раньше; б) для коммерческих структур без участия государства это постановление носит рекомендательный характер; в) четко прописанная процедура и привязка к результатам деятельности мне очень нравятся. Я считаю, если организация показывает хорошие и выдающиеся результаты, то мотивировать персонал и руководителя вы должны в той степени, в которой на это имеет право собственник. Государство выстраивает систему, как мотивировать государственных менеджеров, оно имеет на это полное право. А вот если бы оно пришло к негосударственным акционерам и дало им "разнарядку" по прибыли, это было бы странно. Впрочем, только время показывает правильность или неправильность принятых решений.

**14. — Насколько председатель банка имеет право ошибиться в прогнозах?**

— В прогнозе имеет право ошибиться любой. А вот признать ошибку — это свойство только сильного. Как и не повторять ошибок. Вообще боязнь ошибки закладывается с детства: получил "двойку" — боишься идти домой. Я благодарен родителям, что не боялся "расплаты". Меня не наказывали, а объясняли. Скажу честно, я ошибок не боюсь. Совершал ли я их? Да. Глобальные? Пока, наверное, нет. Там, где я работал, меня за ошибки не наказывали, меня поправляли. А если мне что-то не разрешали делать, то не просто "иди отсюда, нельзя!", а "нельзя, потому что". Мне в каком-то смысле везло на руководителей.

**15. — Вам не кажется, что ценность многих картин, которые вы покупали на аукционах, в частности художников Парижской школы, преувеличена? И преувеличена она именно банкирами, а не искусствоведами?**

— Стоп-стоп! Стоимость картины формируется рынком. Да, сказать, что цена формируется только за счет художественной ценности, нельзя. Потому что это — рынок, на нем присутствуют разные факторы: мода, редкость, спрос, пиар в том числе. Но элемент художественной ценности, безусловно, присутствует в оценке. А единственно правильный судья — время.

**16. — Хочу уточнить: вы будете искать и приобретать только произведения художников прошлого?**

— У проекта "Арт-Беларусь" два основных направления. Во-первых, показать искусство Беларуси встроенным в мировой художественный контент. Вторая и более главная цель: на этой базе сформировать систему, которая создаст условия для появления новых выдающихся людей Беларуси. То есть "Арт-Беларусь" должна служить стартовой площадкой, стимулирующим моментом для развития современного искусства. Но без знания прошлого этого сделать нельзя. Поэтому наш следующий грандиозный проект — "Десять веков белорусской культуры". В начале следующего года публике будет представлена уникальная экспозиция искусства от Полоцкого княжества до сегодняшнего дня.

**17. — Лично вы отдаете предпочтение изобразительному искусству или театру?**

— Лично я — литературе.

**18. — На спорт, на здоровье время выделяете?**

— Баня раз в неделю, когда есть возможность, святое. Плаваю в озере. Я ранняя птичка, встаю в 6 утра и с 1 апреля по 1 октября езжу на озеро — когда в Минске и время позволяет. Но в командировках в тренажерные залы не хожу.

**19. — А кто, признайтесь, косит лужайку около дома?**

— Как только у меня появилась первая лужайка, я косил ее сам. Потом из-за нехватки времени (а может быть, и немного лени) этим стали заниматься помощники. Но я кошу лучше! И жена подтверждает и всегда узнает, кто косил.

**20. — Где вы предпочитаете отдыхать во время отпуска: в "диком" месте или в туристических мекках?**

— Лет 14 назад реализовалась мечта моего детства — я научился нырять, и теперь вопрос, куда ехать, отпал. Одну часть отпуска, летнюю, я отдаю близким. Собираемся всей семьей (она выросла и частично разъехалась по разным городам) где-нибудь на дней 10—14, а вторая часть отпуска — это "нырялка". С настоящим удовольствием нырять можно только в открытом море или океане.

**21. — Вас, наверное, привлекает чувство опасности?**

— Наоборот! Чувство абсолютного покоя. Мир безмолвия, как называл его Кусто, хотя на самом деле он наполнен звуками. Нахождение в воде в состоянии невесомости, видимо, на генетическом уровне приятно человеку, это напоминает ему об утробе матери. Состояние, как я называю, нейтральной плавучести, является самым лучшим отдыхом для меня.

**22. — Вы отключаете мобильный в отпуске?**

— Совесть не позволяет. Но технические средства, к сожалению, в открытом океане не всегда работают. Так что я с чистой совестью не имею связи с цивилизацией.

**23. — Когда-то в интервью вы говорили, что хотите сформировать в банке "внутренний мотор, который работал бы и без меня". Насколько вы близки к реализации этой управленческой задачи?**

— Мне сложно судить о результатах своего собственного труда. Я всегда считаю, что могло быть лучше. Поэтому я сам не могу ответить утвердительно. Но очень хотелось бы думать, что да, сформировал.

**24. — Ваши взрослые дети влияют на ваши предпочтения в книгах, может быть, даже в одежде?**

— Не то слово. Самое удивительное, что мы поменялись ролями на сегодняшний день. Если раньше я их куда-то тащил, то теперь в большей степени это делают они.

**25. — Интересно, какой первый тост вы обычно говорите, когда дети сидят за общим семейным столом?**

— Я — эволюционист и всегда готов поднять тост за такую мысль: чтобы то, что ты оставил после себя, было хоть на капельку лучше, чем перед тобой. Я всегда ратую за то, чтобы дети были лучше нас, родителей. И у меня большое пожелание, чтобы и они, когда пройдет время, поднимали тост за ту же идею — идею улучшения в собственных детях!

**Елена МОЛОЧКО.**

ТЭНДЭНЦЫІ

## Больш за палову маладых беларусаў гатовы шукаць работу за мяжой

*Пра гэта сведчаць вынікі даследавання, праведзенага Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД, Літва ) пры падтрымцы Беларускага Шуманаўскага таварыства (Польшча).*

Сярод моладзі ад 18 да 30 гадоў гатоўнасць з'ехаць у іншую краіну ў пошуках месца работы выказалі 61,7% апытаных, супраць пераезду выказаліся 33,4%. У той жа час сярод старэйшага пакалення з'язджаць у іншую краіну дзеля работы гатовы 27% апытаных, не гатовы — 68,7%.

На думку заснавальніка НІСЭПД сацыёлага **Алега Манаева**, вынікі апытання кажуць "*не столькі пра блізкасць заходніх каштоўнасцяў і ладу жыцця, колькі пра гатоўнасць збегчы далей ад беларускай рэальнасці*".

Эксперт таксама лічыць, што амаль поўная ўключанасць моладзі ў інтэрнэт кажа, хутчэй за ўсё, таксама "*не столькі пра яе цікавасць да ўсеагульнага, колькі пра сыход ад рэала ў віртуал*".

"*Нізкі ўзровень жыцця ў краіне, бесперспектыўнасць у працоўнай сферы, залішняя зарэгуляванасць працоўных адносін прыкметна сказілі прыярытэты жыццёвых каштоўнасцяў насельніцтва, асабліва моладзі, пераарыентаваўшы іх у меркантыльны бок у шкоду традыцыйным агульначалавечым каштоўнасцям*", — адзначыў Манаеў.

УВАГА!

## На чэмпіянат свету па хакеі ўжо прадаюць фальшывыя квіткі!

*Неафіцыйныя прадаўцы разгарнулі сапраўдны бізнес у інтэрнэце.*

*"Звяртаем увагу балельшчыкаў, што ў інтэрнэце з'явіўся сайт, які прадае фальшывыя квіткі або ажыццяўляе перапродаж абанементаў і квіткоў на матчы чэмпіянату свету-2014"*, — паведаміў менеджар Дырэкцыі па правядзенні чэмпіянату свету па хакеі-2014 **Пётр Рабухін.**

Нагадаем, што афіцыйныя продажы абанементаў і квіткоў ажыццяўляюць афіцыйны білетны аператар чэмпіянату свету-2014 беларуская кампанія "Тикетпро" і афіцыйны тураператар чэмпіянату свету-2014 Беларуская дзяржаўная кампания "ЦэнтрКурорт".

Пераход на іх сайты ажыццяўляецца з афіцыйнага сайта дырэкцыі чэмпіянату свету MINSK2014.COM. Таксама права на продаж абанементаў і квіткоў на гульні чэмпіянату свету па хакеі-2014 года на тэрыторыі іншых дзяржаў маюць іх агенты і генеральныя агенты.

ДАРЭЧЫ

## Толькі за тры дні заўзятары купілі больш за 20 тысяч білетаў!

*У дзень хакейныя заўзятары ў сярэднім купляюць каля 500 абанементаў або 2000 квіткоў на чэмпіянат свету па хакеі.*

Сярод пакупнікоў прадстаўнікі больш як 20 краін свету. У іх лік уваходзяць заўзятары краін-удзельніц чэмпіянату, а таксама балельшчыкі з Ізраіля, Вялікабрытаніі, Украіны, Эстоніі, Аўстрыі і іншых краін.

Ужо прададзена больш за 100.000 квіткоў.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ЧУЛІ?

## Былога кіраўніка Гомеля Піліпца судзяць у Магілёве

*Працэс пачаўся на пачатку гэтага тыдня ў Магілёўскім абласным судзе.*

Вядзе працэс суддзя Сяргей Конеў, абвінаваўца — пракурор Кічыгін. Суд ідзе ў адкрытым рэжыме.

Былога кіраўніка Гомельскага гарвыканкама Віктара Піліпца арыштавалі ў верасні 2012 года. Перад самым арыштам ён пакінуў пасаду кіраўніка горада. Яго абвінавацілі ў тым, што з верасня па кастрычнік 2011 года разам з супрацоўнікамі Упраўлення капітальнага будаўніцтва Гомельскага гарвыканкама незаконна размяркоўваў паміж сваякамі і знаёмымі кватэры па значна заніжаных цэнах. Кватэры ж гэтыя павінны былі атрымаць людзі, чыё жыллё падпадала пад знос.



Нанесеная шкода бюджэту — 3,8 млрд рублёў. Кватэры вернуты дзяржаве.

Піліпцу пагражае да 10 гадоў турмы.

РАЗВІТАННЕ

## Бывай, Уладзімір Андрэевіч!

Уважлівыя чытачы "Народнай Волі", мабыць, заўважылі: даўно на старонках газеты няма артыкулаў доктара эканамічных навук, прафесара Уладзіміра Андрэевіча Кулажанкі. І, на жаль, не будзе. Некалькі дзён таму яго зямны шлях скончыўся. Але памяць аб гэтым цудоўным чалавеку, навукоўцу і аўтару соцень газетных і іншых публікацый, застанецца на доўгія-доўгія часіны.



Уладзімір Андрэевіч Кулажанка нарадзіўся ў 1926 годзе ў вёсцы Косаль Кармянскага раёна. Пасля сямігодкі паступіў у Чачэрскі заатэхнікум. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, быў цяжка паранены ў бітве за Берлін. Пасля вайны атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў у раённых газетах.

У 1961 годзе паступіў у дзённую аспірантуру пры кафедры палітэканоміі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 1965 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю, у 1981-м — доктарскую. Аўтар шэрагу манаграфій. Падрыхтаваў некалькі дзясяткаў кандыдатаў навук, аднаго доктара навук.

Шмат гадоў працаваў у Беларускім тэхналагічным універсітэце (раней ён называўся інстытутам). Выкладаў на роднай, беларускай, мове.

Супрацоўнічаў з газетай "Народная Воля". Галоўная тэма публікацый — жыццё вёскі, праблемы аграрнага сектара.

Няхай пухам будзе Вам, Уладзімір Андрэевіч, родная беларуская зямля!

